© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

5 - 11 верасня 1997 года

# Рэгіянальная газета




ЦАНА 2000 РУБ.

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

**Прыгажуні**

## "РГ" мае досвед у прыгажосці



*МАЛАДЗЕЧНА. Прагноз "РГ" аб пераможцах "Міс Маладзечна-97" цалкам спраўдзіўся. "Нашы" дзяўчаты не толькі трапілі ў фінал, але і перамаглі ў розных намінацыях.*

"Міс Маладзечна" стала **Іна Каханоўская (на здымку, інтэрв'ю з ёй чытайце на 3-й стар.)**, званне "Міс Зачараванне" атрымала **Света Смалякова**, у намінацыі за лепшы нацыянальны касцюм перамагла **Каця Шарыпава**. І толькі "Віцэ-Міс" стала **Ліда Базылева** (пісалі мы толькі аб трох будучых пераможцах). Часцей зазірайце на старонкі "РГ" - газета бачыць далёка наперад.

*Віця КАРАНІК, фота Андрэя Каскіна.*

**Наваселлі**

## Аб прадажнасці

*МАЛАДЗЕЧНА. Трэці раз за апошнія месяцы выстаўляліся на аўкцыён установы грамадскага харчавання: сталоўка №1 па вул. Валынца і кафэ "Ля Гасцінца" на тэрыторыі гарпарку. Дагэтуль не было заявак на іх набыццё. На сёння пачатковы кошт аб'ектаў склаў 260,5 і 1250 мільёнаў рублёў адпаведна.*

Цяпер да аўкцыёну справа, здаецца, не дойдзе. На сталоўку сур'ёзна прэтэндуе Аляхновіцкая птушкафабрыка, а на кафэ - прыватны прадпрымальнік, вядомы ў горадзе, як даводзіцца чуць, больш з негатыўнага боку.

Калісьці гэтыя ўстановы бачылі залатыя часы. У "Ля Гасцінца" сталаваліся Віктар Вуячыч, Аляксандр Саладуха, іншыя зоркі беларускай эстрады, Сяргей Бароўскі - былы трэнер нацыянальнай зборнай па футболе, Генадзь Карпенка - палітык. Збіраліся і крымінальныя аўтарытэты.

Сталоўка таксама не тужыла. Дый сёння магла б жыць. 50-60 мільёнаў штомесяц дае варачны цэх, плюс дробны гандаль на вуліцы. Але, па словах работнікаў сталоўкі, 7 мільёнаў забірае за арэнду ВА ЖКГ "Камунальнік". Ды і само памяшканне патрабуе капітальнага рамонту. Трэба прадавацца.

*Васіль САВІЦКІ.*

**Не можа быць?**

## Давайце знаёміцца: "барабашка"

Мала хто з нас можа сказаць, што быў сведкам існавання, да прыкладу, "барабашкі". А вось жыхарка Астравеччыны **Ірэна Тункевіч** не ведае, куды ад таго падзецца. Лідскі госць Маладзечна **Васіль Воранаў** упэўнены ў існаванні незвычайнага, ён якраз і займаецца даследаваннем падобных з'яў. Карэспандэнты "РГ" задалі ім пытанні, атрымалі адказы, аб чым вы можаце прачытаць на 6-й стар.

**Адным абзацам**

Канец тыдня будзе азнаменаваны грандыёзнымі ўрачыстасцямі з нагоды 850-годдзя Масквы, якія па размаху і пампезнасці абяцаюць стаць юбілеем Трэцяга Рыма. Свае віншаванні першапрастольнай сталіцы рыхтуе і Беларусь - у складзе нашай дэлегацыі многа артыстаў, якія возьмуць удзел у 850-хвілінным канцэрце "Славянский мир приветствует Москву".

Днямі Таварыствам беларускай мовы ў сталіцы праведзены пікет супраць прыніжэння беларускай мовы і закрыцця беларускамоўных класаў і школ на Беларусі. На сённяшні дзень у Мінску няма ніводнай беларускай школы, а са школ з беларускамоўным статутам засталося толькі 17.

З 1 верасня ў сувязі з павышэннем мінімальнай заработнай платы павышаецца і памер мінімальнай пенсіі - з 225 тысяч рублёў да 300 тысяч. З улікам устаноўленай урадам 60-працэнтнай даплаты яна складзе 480 тысяч рублёў. Узрастуць таксама і сумы надбавак розным катэгорыям пенсіянераў. Павелічэнне працоўных пенсій, якое праходзіла ў жніўні, адбудзецца толькі ў тым выпадку, калі сярэдняя заработная плата па краіне перавысіць чэрвеньскую на 15%.

Па меркаванні аналітыкаў, зніжэнне стаўкі рэфінансавання з адначасовым павышэннем мінімальнай заработнай платы можа прывесці да росту інфляцыйных чаканняў суб'ектаў гаспадарання. Ужо цяпер многія прадаўцы закладваюць у цану тавару курс долара, які перавышае рэальныя каціроўкі на пару тысяч рублёў, прагназуючы рэзкае паскарэнне росту курсу долара да 35 тысяч рублёў.

У сераду пачаліся тыднёвыя Дні беларускай пісьменнасці і друку, прысвечаныя 480-годдзю выдання на Беларусі першай кнігі. У гэты раз цэнтрам святкаванняў стаў старажытны Нясвіж.

Старшыня Маладзечанскага гарвыканкома С. Татарыновіч прынёс 1 верасня падарунак беларускай гімназіі - два баяны. Цяпер ён хоча забяспечыць гэтымі музычнымі інструментамі, згодна з пададзенымі заяўкамі, астатнія школы горада. Гарвыканком таксама не супраць абмяняць баяны на барысаўскія піяніна.

Газета "Астравецкая праўда" змясціла, па просьбе ВА ЖКГ, спіс кватэраздымшчыкаў, якія не плацяць за кватэру. Грошы ў жыхароў пасля гэтага, натуральна, не з'явіліся, але камунальнікі пагражаюць адключыць іхнія кватэры ад камунальнай сістэмы.

**Навіны**

## Басаножны бум

*СМАРГОНЬ. Няякасны летні абутак з'явіўся на мясцовым рынку. Штодня пакупнікі пасля няўдалых перагавораў з прадаўцом звяртаюцца па дапамогу ў Таварыства абароны спажыўцоў.*

Прадпрымальнікі завозяць абутак з-за мяжы. У якіх цэхах ён шыецца, невядома. Але нагрузку не вытрымлівае, бывае, і два дні. Шлёпкі ды басаножкі звычайна мяняюць. Праўда, былі 2 выпадкі, калі прадаўцы адмовіліся гэта зрабіць. Справы разглядаліся ў народным судзе. Акрамя кошту няякаснага тавару, адказчык выплаціў і за маральны ўрон.

*Аддзел інфармацыі.*

## Другое жыццё старых рэчаў

*ВІЛЕЙКА. Днямі дэлегацыя з Жэневы знаёмілася з жыццём маламаёмных, каб у Еўропе заклікаць дапамагчы беларусам.*

Вілейчанам дапамога патрэбная. У цэнтры медыкасацыяльнай дапамогі на ўліку 400 інвалідаў, састарэлых, адзінокіх. І яшчэ 200 чалавек падалі заяву на абслугоўванне ў гэтай установе: там можна атрымаць медыцынскую дапамогу, гуманітарку. Калі раней замежныя рэчы давалі ўсім, хто пісаў заяву, то цяпер дапамагаюць тым, хто знаходзіцца ў экстрэмальнай сітуацыі. Аддзяленне Чырвонага Крыжа звярнулася да жыхароў: калі ў вас ёсць не патрэбнае адзенне, абутак у добрым стане, прыносьце ў цэнтр.

*Аддзел інфармацыі.*

## Стоп-кран адмяняецца

*СМАРГОНЬ. Жыхарам мікрараёна "Усходні" ў хуткім часе ўжо не прыйдзецца зрываць стоп-кран у прыгарадным цягніку "Маладзечна-Гудагай", каб хутчэй трапіць дадому.*

Раённыя ўлады дамовіліся з упраўленнем Беларускай чыгункі наконт будаўніцтва ў горадзе прыпыначнага пункта насупраць мікраёна. Работы па будаўніцтве плануецца правесці на працягу верасня-кастрычніка.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

## Дзядуля, які дрэнна бачыў

*МАЛАДЗЕЧНА. Тыдзень таму Мінскі абласны тэатр прапанаваў гледачам клаўнаду Славаміра Мрожака "Караль".*

Смелая дынамічная пастаноўка рэжысёра **Венядзікта Растрыжэнкава** недвухсэнсоўна ставіць пытанне аб адказнасці кожнага з нас за агульную будучыню, за лёс краіны, у якой нам жыць.

Спектакль, несумненна, прыцягне ўвагу чытача.

*Аддзел інфармацыі.*

## Шанс

*СМАРГОНЬ. 25 жніўня падпісана распараджэнне, якое прадугледжвае адтэрміноўку выплат заводам аптычнага станкабудавання і агрэгатным даўгоў бюджэту і пазабюджэтнаму фонду да 1 студзеня 2000 года.*

Акрамя таго, прадпрыемствы будуць мець магчымасць накіроўваць 80% ад выручкі на патрэбы завода. Згодна з распараджэннем, на папаўненне абаротных сродкаў ЗАС атрымае 16 млрд. рублёў, САЗ - 6 млрд. рублёў. 2,6 млрд. рублёў атрымае ЗАС на кансервацыю недабудаванага аб'екта, на гэтыя ж патрэбы САЗу дзяржава выдзяляе 6,4 млрд. рублёў.

Генеральнага дырэктара ЗАСа **Б. Тамашэвіч** сказаў, што гэта вельмі добры шанс выйсці з крызісу і стаць на ногі. Ён не будзе страчаны.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

РЭКЛАМА

ЗАПЧАСТИ К АВТОМОБИЛЯМ

- силовые агрегаты
- двигатели и КПП
- тормозная и топливная аппаратура
- электрооборудование
- э/фильтрующие
- рулевое управление
- ремни приводные
- рамы
- кабины
- детали подвески
- крылья
- радиаторы
- валы карданные
- рессоры
- диски сцепления
- подшипники
- глушители
- стёкла лобовые
- баки топливные
- *любые автошины и аккумуляторы*

Тел. в Сморгони 2-23-96

Реализуем со складов в Сморгони и Минске

- соду кальцинированную
- соду каустическую
- кальций хлористый
- кислоту борную
- магний сернокислый
- хлорную известь

(017) 2685391, 2685202

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



Трагедыя яўрэйскага народа

# Ахвяры СД

*Вольга КОЛАСАВА,*
*старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея.*

*Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.*



*Фашысты "напрацаваліся". Трэці злева Кюнбергер - камандзір роты, справа ад яго латышскі перакладчык Эрых Розум (?). Фота з архіваў КДБ.*

## Людзей спальвалі жывымі

**"Акт 1944 года, жніўня 16 дня г. Вілейка. Я, ніжэйпадпісаны вілейскі благачынны, протаіерэй Леў Аляксеевіч Бляўскі, склаў гэты акт у ніжэйпададзеным:**

Як член Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі я зрабіў абследаванне злачынстваў і разбурэнняў, прычыненых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў раёне г. Вілейкі і даручанага мне прыхода.

Карыстаючыся паказаннямі прыхаджан, асабістымі назіраннямі і абследаваннямі на месцах (у вёсках) сцвярджаю, што:

1. Нямецкія акупанты наогул і часці СС і СД люта і бесчалавечна абыходзіліся з мірным працоўным насельніцтвам нашага краю, а менавіта:

абцяжарвалі непасільнымі работамі не толькі дарослых, але і малалетніх дзяцей, за самае нязначнае ўхіленне ад выканання назначаных работ, збівалі (бывала, да страты прытомнасці), расстрэльвалі, у лепшым выпадку, арыштоўвалі і марылі (пры бесчалавечным турэмным рэжыме) голадам. Так, у барацьбе з партызанамі немцы прымушалі вырубаць і прыбіраць лес і зараснікі на 100 метраў па абодва бакі чыгуначнага палатна 10-гадовых дзяцей-школьнікаў, робячы гэты нарад на работы праз адміністрацыю школы. Палкамі збівалі сялян, якія спазніліся выехаць на лесанарыхтоўку. Мне вядомы выпадак, калі няздольны да працы стары з в. Паняцічы, які ішоў у царкву (у Вялікі пост), быў збіты немцамі да страты прытомнасці (на дарозе). Была расстраляная немцамі маладая дзяўчына на асіпаўскім пераездзе толькі за тое, што не закрыла шлагбаум і тым, быццам бы, паставіла пад небяспеку трапіць пад цягнік, што прайшоў праз пяць хвілін, немца, які праязджаў на легкавой машыне.

З "бальшавікамі", па ўказанні ворагаў народа, немцы абыходзіліся проста: стралялі ў кватэрах, на вуліцы, масава. Так быў забіты на вачах у жонкі і дзяцей **Іван Данілавіч Каўзановіч** (г. Вілейка, Молакава, 37), старшы майстар **Зіновій Канстанцінавіч Каляда**, у ліку 150 чалавек - у лесе за драўляным мастом (паблізу горада Малыя Стаўкі), настаўнік Парсянскай пачатковай школы **Іван Міхайлавіч Малько**, рабочыя: **Іван Мартынавіч Тышкоўскі** і яго **сын Анатоль** (вул. Молакава, 71), **Мікалай Ігнатаваіч Кудзін** (вул. Молакава, 77). Перыядычна рабіліся налёты гестапаўцаў на наш горад з мэтай масавага знішчэння яўрэйскага насельніцтва. Пры гэтых акцыях загінула больш за тысячу яўрэяў ва ўзросце ад груднога да глыбокіх старых. Няшчасныя ахвяры ў грузавых аўтамабілях вывозілі за горад (вядомыя месцы паблізу ад горада - Скюнскія могілкі паблізу ад Порсы) і тут расстрэльвалі з кулямётаў і аўтаматаў. Ахвяры, падчас яшчэ толькі параненыя, закопваліся ў магілы - траншэі, падрыхтаваныя раней. У пазнейшы час, калі нямецкі фронт не вытрымаў і захопнікі пачалі адступаць, са сваімі "ворагамі" злодзеі распраўляліся яшчэ больш люта - жывымі спальвалі ў халодных і жылых збудаваннях навакольных вёсак, а менавіта: мне вядомыя выпадкі ў в. Порса (у лазні Аляксея Дзмітрыевіча Чарапана), у в. Макаўе (паблізу ад дарогі) у доме і гаспадарчых пабудовах грамадзяніна Пашкевіча 29 чэрвеня 1944 года, дзе загінула ў страшных пакутах больш за 300 чалавек. Сярод іх і святар Рабуньскай царквы **Уладзімір Назарэўскі з дачкой Надзеяй**. У в. Гліннае, у доме і вараўні Субачаў, якія пайшлі ў партызаны, спалена жывымі звыш за 300 чалавек. На месцы гэтых зверстваў мне давялося быць асабіста і ўпэўніцца ў страшнай праўдзе. На месцах спальвання заставалася яшчэ маса несатлелых частак чалавечых шкілетаў, а паблізу былі відаць ямы, у якіх, па сведчанні мясцовых жыхароў, закапаныя не зусім дагарэлыя рэшткі трупаў.

Вядомыя выпадкі зверскіх забойстваў гестапаўцамі толькі па падазрэнні ў сувязі з партызанамі. Так забіты стары протаіерэй **Павел Сасноўскі**, настаяцель Нарацкай царквы, ў сваёй кватэры, адначасова з ім - хлопчык каля 10 год, які начаваў у настаяцеля. Забіты са сваёй сям'ёй святар **Аляксандр Новік** у в. Слабада Глыбоцкага благачыння. Забітыя адначасова 8 чалавек рабочых з в. Халапы.

У в. Ілішчавічы гестапаўцы забілі і спалілі ва ўласных дамах 35 чалавек за несвоечасовы выхад на ахову дарогі Вілейка-Нарач, на якой ад міны загінуў галава Вілейскага СД - звер **Граве са сваёй палюбоўніцай**. Пры адным успаміне пра гэтыя нечуваныя зверствы кроў стыне ў жылах і сэрца абліваецца крывёю! А колькі вывезена гітлераўцамі ў нямецкае рабства нашых дзяцей, братоў і сёстраў - цяжка падлічыць. Пры гэтым фашысты карысталіся падманам, набіраючы, напрыклад, моладзь для праходжання курсаў супрацьпаветранай абароны або для азнаямлення з паветраплаваннем.

2. Матэрыяльны ўрон, прычынены гаспадараннем немцаў у Вілейцы і на тэрыторыі майго прыхода, каласальны, пра яго сведчаць спаленыя і разбураныя дамы, храмы, могілкі. Квітнеючыя землі Вілейкіператвораныя ў могілкі. З будынкаў, падведамасных мне, разбураных і знішчаных з усім інвентаром, назаву храм св. Георгія, сядзібу святара Марыінскай царквы (дом і халодныя пабудовы), сядзібу псаломшчыка Георгіеўскай царквы, храм на гарадскіх могілках і дачу вартаўніка пры Георгіеўскай царкве. Падлічыць суму ўрону ад гібелі нават пералічаных будынкаў няма магчымасці за адсутнасцю даведачнай цаны на неадноўленыя прадметы (такія, як царкоўныя рэчы). Па майму меркаванню, гэтую ацэнку можа зрабіць спецыяльная камісія, у склад якой увайшлі б тэхнікі і інжынеры.

Подпіс: Вілейскі Благачынны Протаіерэй **Леў Бляўскі**. (Арыгінал дакумента захоўваецца ў дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі, ф. 716, ол. 89, д. 3, л. 6-7).

## Пасля расстрэлаў ладзіліся папойкі

**Пратакол допыту сведкі 27 кастрычніка 1971 г., г. Мінск.**

Следчы па асабліва важных справах Пракуратуры БССР старшы саветнік юстыцыі Аўтушка, па даручэнні Пракуратуры СССР, у сувязі са зваротам органаў юстыцыі ФРГ аб аказанні прававой дапамогі, у прысутнасці дырэктара зямельнага суда горада Бохума доктара Фрозе, з удзелам перакладчыка з нямецкай мовы Бірылы, з выкананнем артыкулаў 158 і 160 УПК БССР, дапытаў у якасці сведкі **Мелнгайліса Эміля Эмільевіча**, 1917 года нараджэння, ураджэнца горада Ташкента, латыша, грамадзяніна СССР, з сярэдняй адукацыяй, які пражывае ў г. Рыга, вул. Айнавас, д. 2, кв. 55.

**Следчы**: Калі, дзе і пры якіх абставінах было расстраляна яўрэйскае насельніцтва в. Ілья Вілейскага раёна?

**Сведка**: У першай палове чэрвеня ноччу нас паднялі па трывозе, загадалі ўзяць з сабой зброю і 2-3 скрыні ручных гранат. Выехалі пасля поўначы на трох грузавых аўтамашынах і на дзвюх легкавых. Першымі ішлі легкавыя аўтамашыны, затым грузавыя. Куды мы едзем, нам сказана не было.

У першай легкавой аўтамашыне ехаў **Граве** з двумя намеснікамі. Машыну вёў пастаянны **шафёр Граве па імені Тэадор**. Усе ў карычневай форме, у іх на левым рукаве была нашыўка са свастыкай. Ні гэтых асоб, ні вадзіцеля я не ведаў, але мяркую, што машына была не з СД. Гэтыя асобы збіралі каштоўнасці, якія належалі яўрэйскаму насельніцтву. Гэта былі гаспадарнікі, мы іх называлі "фазанамі". Астатнія былі ў нямецкай форме, на плячах іх кіцеляў замест пагонаў былі два пераплеценыя шнуры. Потым я даведаўся, што гэтых людзей называлі зондэрфюрэрамі. У першай і другой машынах знаходзіліся латышы, сярод якіх, магчыма, было некалькі перакладчыкаў. У кожную машыну памяшчалася прыкладна 25 чалавек. У трэцяй машыне былі немцы ў форме СД і жандармерыі, крымінальныя чыноўнікі, сярод якіх былі і латышы, большасць была ў форме СД.

Ехалі мы праз лес і кустарнік. На шляху следавання была вёска ці асобныя дамы. Пад'язджаючы да аднаго з дамоў, Граве застрэліў з пісталета, прыстасаванага для стральбы ў начны час, кошку.

У хуткім часе спыніліся. Я і яшчэ некалькі чалавек уставілі ў ручныя гранаты дэтанатары, пасля чаго паехалі далей. Перад світаннем прыехалі ў адну вёску, як я пазней даведаўся, гэта была вёска Ілья. Вёска вялікая, некалькі вуліц, ёсць плошча, недалёка ад вёскі - лес. На плошчы мы спыніліся.

У вёсцы Граве ўжо чакалі 5-6 немцаў у форме ахоўнага колеру. Адзін з іх, памойму, у чыне капітана, далажыў Граве. Акрамя гэтых асоб было многа паліцэйскіх у чорнай форме, магчыма, чалавек 30-50.

Злева ад базарнай плошчы знаходзілася 20-30, а можа, і больш жылых дамоў, абгароджаных калючым дротам, у якіх знаходзіліся асобы яўрэйскай нацыянальнасці. Латышам і паліцэйскім быў дадзены загад ачапіць месца знаходжання яўрэяў, прычым паліцэйскім аддаваў загад немец, які сустракаў Граве, а латышам - Граве на латышскай мове. Ён сказаў нам, што мы прыбылі не для аперацыі супраць партызан, а для знішчэння яўрэяў, і спытаўся, хто з латышоў хоча прыняць удзел у расстрэле яўрэяў. Такіх знайшлося 7-10 чалавек. У гета ўвайшлі ўсе немцы, перакладчыкі, латышскія следчыя, усе асобы, якія ехалі ў легкавых аўтамашынах, і ўсе асобы, якія сустракалі Граве ў Ільі.

Я бачыў, як з бліжэйшых да нас дамоў пачалі выганяць асоб яўрэйскай нацыянальнасці, у асноўным, гэта былі дзеці, старыя, жанчыны. Мужчын было вельмі мала. Я бачыў, як гэтых асоб пагналі за дамы, у поле, уніз, пад ухіл. Пасля таго, як выгналі ўсіх яўрэяў, асобы ў форме жандармерыі, СД і ў чорнай форме шукалі каштоўнасці, якія належалі яўрэям, і людзей, што схаваліся. Асабіста я не бачыў, але потым мне расказвалі, што ў дамах знаходзілі яўрэяў, якія схаваліся.

Прыкладна праз паўгадзіны пасля таго, як сагналі ўсіх яўрэяў, я пачуў страляніну з аўтаматаў і пісталетаў. У большасці выпадкаў гэта былі асобныя стрэлы. Было чуваць крыкі жанчын і дзяцей. Стралялі прыкладна на працягу 2-3 гадзін. У час расстрэлу да аўтамашын, дзе я знаходзіўся, падыходзілі немцы ў форме СД і дадаткова бралі патроны. Расстрэл адбываўся за вялікім хлевам. Пасля заканчэння стральбы, прыкладна праз гадзіну, большасць вярнулася да аўтамашын. Латышскае ачапленне гета было знятае, у ачапленні засталіся толькі паліцэйскія ў чорнай форме. Праз некаторы час да аўтамашын вярнуліся Граве, яго намеснікі і немцы, якія прыехалі на другой аўтамашыне.

Калі вярнуліся нашы латышы, яны расказвалі мне, што ў асоб яўрэйскай нацыянальнасці было адабрана шмат розных каштоўнасцяў, асабліва многа было залатых манет царскай чаканкі. Потым я бачыў, што гэтыя каштоўнасці, не памятаю, у скрынях ці ў сумках, былі пагружаныя ў другую легкавую машыну. Пасля заканчэння гэтай акцыі, у другой палове дня, усе селі па машынах і паехалі ў Вілейку. Паліцэйскія ў чорнай форме і асобы, якія сустракалі нас у Ільі, засталіся на месцы.

Пасля вяртання ў Вілейку ў памяшканні СД была наладжана гулянка, у якой узялі ўдзел усе асобы, што жылі там. Мне здаецца, што на гулянку былі запрошаныя таксама радавыя, што прымалі непасрэдны ўдзел у расстрэле ў Ільі. З уласных назіранняў, а таксама па расказах у час выпіўкі з латышамі, я зразумеў, што ўсяго ў Ільі было расстраляна прыкладна 300-400 чалавек. Працягваючы службу ў СД Вілейкі, я ведаў, што пад кіраўніцтвам Граве былі выезды на акцыі ў іншыя населеныя пункты, якія канкрэтна, я не ведаю, але для здзяйснення масавых расстрэлаў насельніцтва. Пасля ўсіх гэтых выездаў арганізоўваліся гулянкі, і знаёмыя мне латышы расказвалі, што расстрэльвалі, у асноўным, яўрэяў.

Дапоўніць свае паказанні нічым не магу. Пратакол мной прачытаны асабіста. З маіх слоў запісана правільна.

Подпісы.





*На групавым здымку чацверты злева латышскі перакладчык Лейнісціс, восьмы-- Курт Юнкер, нараджэння 15 чэрвеня 1902 года. Пазіруюць, задаволеныя сабой.*

*На здымку ўнізе жандармскі пост ў Вілейцы. Ля каня-- начальнік паста Краўзэ.*

*Фота з архіваў КДБ.*

*Працяг будзе.*

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



Гульня дзеля задавальнення

# Вялікі футбол з маленькай "каробкі"

*МАЛАДЗЕЧНА. Гарадскі чэмпіянат па міні-футболе ў самым разгары. У ДЮСШ кіпяць страсці, пануе азарт, хвалююцца балельшчыкі,- на жаль, нешматлікія. Глядзець гульні - задавальненне нават большае, чым на вялікім стадыёне назіраць за высілкамі камандаў майстроў.*



Атакуе адзін з лідэраў кубка - каманда "ХВАЛЯ".

Склад удзельнікаў з года ў год практычна нязменны. Далучылася каманда **"РАМАС"** з Беразінскага, хаця ёй і нялёгка гуляць па дзве сустрэчы запар. На жаль, распаўся мінулагодні чэмпіён **"Паліграфіст"**, а гульцы разышліся па іншых клубах. Барацьбу за першае месца вядуць **"Хваля" (з-д "Спутнік"), ЗЛМК** і **"Аўтамабіліст"**. Але ў любы час могуць раптоўна далучыцца да гэтай "троіцы" і іншыя, бо майстэрства камандаў значна вырасла і выраўнялася. Асноўная інтрыга закруціцца сёння ўвечары, калі ў "каробцы" сцэпяцца **ЗЛМК** і **"Аўтамабіліст"**.

Спаборніцтвы арганізаваў адзін (!) чалавек - **Анатоль Ішчанка**, старшыня федэрацыі футбола Маладзечна. Усё трымаецца на ягоным энтузіязме, любові да футбола: ён і суддзя, і каардынатар, і нават трэнер "Аўтамабіліста":

*— Нашы спаборніцтвы маюць афіцыйную назву "Кубак горада", але праводзяцца па кругавой сістэме,- расказаў ён.- Кубак мы ўрачыста ўручаем пераможцам на гарадскім стадыёне падчас якога-небудзь матча. Каб удзельнічаць, трэба, перш-наперш, жаданне. Заявіце сваю каманду і гуляйце. Яшчэ патрабуецца невялікі грашовы ўзнос, які ідзе на аплату суддзям, урачу. Грошы невялікія, і гэта не перашкода для ўдзелу.*

*Прыемна бачыць, як расце майстэрства камандаў. АВПС, "Дынама" і "РАМАС" удзельнічаюць у іншых чэмпіянатах, і нашы гульні для іх - добрая трэніроўка. Дарэчы, і выступаць там яны пачалі значна лепей. На жаль, нашы мацнейшыя летась каманды "Маладзечна-96" і "Хрустальны мяч" (ДЮСШ) цяпер не гуляюць, бо выступаюць у чэмпіянаце Мінскай вобласці. Акрамя Кубка горада, у кастрычніку мы правядзем Кубак "Залатая восень" па алімпійскай сістэме.*

Да слоў Анатоля Іванавіча дадам, што многія футбалісты хочуць, каб былі ўведзеныя сапраўдныя правілы, што прынятыя ў сусветным міні-футболе. Каб арганізацыі дапамагалі спорткамітэту праводзіць сустрэчы, даводзілі да сваіх работнікаў, калі гуляе іх каманда. Каб быў распрацаваны каляндар і нейкае палажэнне аб пераходах (камандзе **"Колас"** залічылі тэхнічнае паражэнне за тое, што ў іх варотах стаяў "чужы" галкіпер, а менавіта гэтая каманда прапусціла найменей галоў).

Добра было б, каб прынялі ўдзел каманды з Вілейкі, Смаргоні, Мядзела. Там ёсць ветэраны, якія гуляюць на вобласці. Чаму б ім не паспытаць свае сілы ў Маладзечне? І няўжо няма там зацікаўленай міні-футболам моладзі?

*Алег ГУЛЕЦКІ.*



Другі лідэр - "АЎТАМАБІЛІСТ" (яго ігракі ў цёмнай форме), апошні раз сыграў унічыю.

**Табліца на 4 верасня 1997 г.**

| КАМАНДА | Г | А | В - Н - П | М |
|---|---|---|---|---|
| ЗЛМК | 6 | 15 | 5 - 0 - 1 | 21-11 |
| Аўтамабіліст | 6 | 14 | 4 - 2 - 0 | 15-7 |
| Хваля | 4 | 10 | 3 - 1 - 0 | 16-2 |
| Электрамодуль | 6 | 9 | 3 - 0 - 3 | 8-12 |
| РАМАС | 6 | 9 | 3 - 0 - 3 | 17-13 |
| Дынама | 5 | 7 | 2 - 1 - 2 | 12-13 |
| Колас | 5 | 4 | 1 - 1 - 3 | 4-6 |
| Фартуна | 5 | 4 | 1 - 1 - 3 | 8-20 |
| АВПС | 4 | 2 | 0 - 2 - 2 | 5-9 |
| ЖЭУ-Чайка | 5 | 0 | 0 - 0 - 5 | 4-20 |

Пятніца, 5.09:
**18-00** Фартуна - Электрамодуль
**18-40** ЗЛМК - Аўтамабіліст
**19-20** Чайка - Дынама

Прыгажуні

# Іна Каханоўская - "Міс Маладзечна-97"

*Візітная картка. Іна Каханоўская - закройшчыца лёгкага адзення. Жыццёвы вопыт набывала ў дзіцячым садку №11, СШ №8, ПТВ-135, вучэбна-курсавым камбінаце. Прайшла шлях ад проста Інусі да самай прыгожай дзяўчыны горада.*

- Пачула па радыё, што праводзіцца конкурс і ў той жа дзень падала заяўку на ўдзел. Не хвалявалася - вопыт. Пару год таму ў конкурсе "Міс-135-е вучылішча" перамагла ў намінацыі "Міс зачараванне". Да першай не дацягнула. Сёлета маці адразу не згаджалася:

- Сядзі дома. Як лялек, выведуць вас на сцэну, а месцы ўжо распісаныя, прызы размеркаваныя. Толькі пасмяюцца з цябе.

А потым дапамагалі ўсе. Кожны раз у зале сядзела група падтрымкі ў складзе маці і сястры. Бацька "Шайбу, шайбу!" крычаў дома - нерваваўся моцна. Занепакоена сябе адчуваў наш сабака Кіма - у тыя моманты на яго ўвагу не звярталі.

**- У каралевы і сям'я павінна быць арыстакратычнай крыві!**

- Мы арыстакраты па духу. А сям'я звычайная. Маці працуе кладаўшчыком на заводзе "Спадарожнік", бацька - электрыкам у ЖЭУ. Сястра выкладае працу ў СШ №4. А я - рэкламны агент кампаніі "Філіп Морыс".

**- Колькі пайшло грошай з сямейнага бюджэту для ўдзелу ў конкурсе прыгажосці?**

- Здаецца, мы не патраціліся. Сястра распрацавала і поўнасцю зрабіла нацыянальны касцюм. Маладзёжны склалі з таго, што было дома. Вячэрні пазычылі ў знаёмых. Нават купальнік таксама пазычылі.

**- Ну, а як адчувала сябе ў купальніку на адборачным туры? Сам-насам з яшчэ не старымі членамі журы! Яны не замяралі ў цябе часткі цела?**

- Рукамі не дакраналіся. Вызначалі на вока, хто пройдзе ў I тур.

**- Калі пасля фіналу дамоў ішлі з дарагімі падарункамі - відэамагнітафонам "PANASONIK", кветкамі, мельхіёравай каронай - бабулі на лаўцы што ўслед казалі!**

- Не прыслухоўвалася. Не да таго было. Нас, канкурсантак, увечары таго ж дня віншавалі ў маладзёжным кафэ "Ронда". А наогул, у мяне здаровы лад жыцця - няма падстаў для плётак.

**- Карона не пераходная!**

- Ніхто не казаў, што яе адбяруць. Адзначу вялікую работу арганізатараў. З намі яны напакутаваліся. Магчыма, яшчэ "адыходзяць", як і мы.

**- Пасля перамогі сяброўкі не адвярнуліся! Ёсць такое слова - рэўнасць.**

- Наадварот. Што ні дзень, то прымаю віншаванні. Знаёмых многа. Летам езджу ў Вілейку да бабулі. Яе прозвішча Харчанка, маці маёй маці.

**- Наогул, што любіць каралева?**

- Калі ёсць настрой, зранку гуляю з сабакам. Люблю выпякаць мой фірменны торт - "Сметанковы". Люблю рытмічную музыку. Я такая, як усе мае аднагодкі.

*Васіль САВІЦКІ.*

Нас запрасілі

**IREX/ProMedia** на семінар у Адэсе (канец верасня) - трэнінгі праводзяць эксперты з ЗША, Вялікабрытаніі, Швецыі.

Нас павіншавалі

**Мінскі абласны драматычны тэатр** - са святам беларускай пісьменнасці і друку.

Крымінал, здарэнні

## Навука здраднікам

*ВІЛЕЙКА. 120 удараў па целе налічыла судова-медыцынская экспертыза ў 37-гадовай грамадзянкі Р. Ад пабояў яна сканала ў сваёй кватэры.*

Скончылася следства, і наперадзе суд над сужыцелем. Па яго словах, "каханка" здрадзіла. У часе высвятлення адносінаў абодва знаходзіліся на добрым падпітку.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Усё вакол калгаснае

*АСТРАВЕЦ. На мінулым тыдні на полі калгаса імя Мічурына непадалёк ад вёскі Палушы трактарыст Іосіф Радкоўскі на трактары Т-150 узворваў глебу. Узнік пажар, ад якога амаль поўнасцю згарэў трактар.*

Урон, па папярэдніх дадзеных, склаў каля 10 мільёнаў рублёў. Прычыны здарэння пакуль што высвятляюцца, але калгас пацярпеў, нават нягледзячы на вынікі расследавання. Шчасце, што лёгкім спалохам адкараскаўся трактарыст.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## У хату ніхто не заходзіў

*ВІЛЕЙКА. Ва ўласным доме пасёлка Партызанскі знойдзены трупы гаспадароў. Гаспадыня, пенсійнага ўзросту, сядзела нежывая на канапе. Яе муж ляжаў у калідоры, быццам хацеў выйсці на двор.*

Па дадзеных судмедэкспертызы, жанчына памерла ад захворвання. Мужчына атруціўся воцатам. З улікам таго, што ў хату ніхто не заходзіў, крымінальная справа не ўзбуджалася. Па чутках, гаспадары часцяком сварыліся, даходзіла да боек.

Адбывалася ў іх чарговае высвятленне адносінаў, ці пасля заўчаснай смерці жонкі муж вырашыў пайсці за ёй - невядома.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Фальшывы "стольнік"

*АСТРАВЕЦ. Днямі пры мытным аглядзе цягніка Масква-Калінінград у грамадзянкі Літвы выявілі падробную купюру ў 100 долараў.*

Выраблена яна на паперы іншай якасці, што адразу і прыцягнула ўвагу. А на пытанне, дзе жанчына яе ўзяла, тая паведаміла, што прыдбала ў адным з маскоўскіх абменных пунктаў. Так гэта ці не - выявіць міліцыя, але ў праўдзівасці гэтых слоў узнікаюць сумненні.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Рэха вайны

*ВАЛОЖЫН. Чарговы напамінак апошняй вайны з'яўляецца кожны раз у самым неспадзяваным месцы.*

У вёсцы Сакаўшчына калгаса "1 Мая" артылерыйскі снарад знаходзіўся за пілараmай. Аб знаходцы паведаміў вясковец **У. Сухадолец**. Выклiканыя сапёры снарад абясшкодзілі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Рубель рублю не раўня

*АСТРАВЕЦ. Дорага каштавалі купля-продаж валюты для двух жыхароў пасёлка. Адзін паплаціўся 160 доларамі, амаль пяццю з паловай мільёнамі рублёў і яшчэ 5 суткамі арышту, а ягоны сябар толькі 300 тысячамі рублёў.*

Жыхарка вёскі Палушы **Ф.**, якая прадавала ля цягнікоў на станцыі Гудагай ягады за расійскія рублі, вымушана была падарыць дзяржаве 11 тысяч рублёў РФ і яшчэ штраф за парушэнне валютных аперацый у 10 мільёнаў "вушастых".

Дэкрэты, як відаць, выконваюцца спраўна, хаця жыццё ад іх нікольki не паляпшаецца.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

Не вер вачам сваім




## Ку-ка-рэ-ку

*МАЛАДЗЕЧНА. У гэтым магазіне Мядзельскай птушкафабрыкі, калі арыентавацца па назве, мусяць адпускаць прадукты без грошай.*

Дзе там. Яйкі - па 19600. Кілбасы - ад 60 тысяч і вышэй. Выходзіць, зноў падманулі.

*Віця КАРАНІК.*

